# ТРЭБА ТОЛЬКІ ПАМАГЧЫ



Святліца, як гаворыцца, нябрыдкая, толькі трэба задбаць пра яе. Хачу яшчэ сказаць, што ёй, святліцы, ніяк не пасуе хмельны кватарант — гэта крама (з віном), што размясцілася праз сценку, як буфет на забавах...

(Працяг са стар. 1)

Справа складаў толькі на першы погляд выдаецца глупствам. Важнасць яе зразумеем тады, калі дакладней пазнаёмімся з гаспадаркай гуртка.

Гурток мае штосьці каля чатырнаццаці тон намалочанага збожжа, шмат бульбы, добрых некалькі тон прыгожага ільну (па кантрактацыі). Прытым, мае многа машын, якіх не буду тут лічыць, каб лішне не займаць месца. Карацей кажучы, ёсць вялікая супольная гаспадарка — запасы, абароты, даходы. Праўдзівы рух!

Гаварыў я з многімі членамі праўлення гуртка, але ніхто з іх не змог падаць мне дакладнай лічбы гаспадароў, якія належаць да іх сельскагаспадарчага гуртка. Аляксандр Мінеўскі, бухгалтар, растлумачыў так:

— Членамі лічу тых, якія ходзяць на працу да нашай гуртКоўскай гаспадаркі — у жніво, капанне, малацьбу...

Такіх налічыў Мінеўскі 12 на звыш 230 гаспадароў у вёсцы. На прапанову сакратара Івана Астроўскага кожны з гэтых дванаццаці працавітых членаў абавязаўся выпрацаваць не менш, як па 200 гадзін (хіба па 7,70 за адну). На днях уведзена яшчэ адну важную, так сказаць, эксперыментальную рэарганізацыю ў кіраванні дзейнасцю гуртка, а менавіта — кожны член па чарзе будзе брыгадзірам (Федаруку на адну функцыю менш). Прызнацца, крыху дзіўны гэты эксперымент, але калі ўдасца (пераможцаў не судзяць), чаму не, можна прыняць гэта за нейкую новую форму, якая акажацца карыснай не толькі Плюцічам...

Гэтыя пастановы, магчыма, будуць той першай ластаўкай нармалізацыі спраў і дзейнасці гуртка. Дагэтуль гурток купляў у гаспадароў гной і плаціў па 150 зл за фуру. Зараз пастаноўлена падзяліць паміж сабою салому з абмалоту і, так сказаць, нарабіць гною ў сваіх хлявах. Добрая задума.

Ужо падрыхтавана 15 гектараў зямлі пад сяўбу жыта і праведзена апырскванне яе аміякальным растворам. Пры гэтай аказіі некаторыя індывідуальныя гаспадары таксама папрасілі, каб апырскаць аміякальным растворам іх палеткі — для практыкі. Значыць, зацікаўленне людзей гаспадаркай гуртка ў Плюцічах расце, што можа толькі цешыць.

У вёсцы ёсць умовы для таго, каб гурток буйна развіваўся. У першую чаргу хочацца звярнуць увагу на тое, што тут усе (пагалоўна) пераконаны ў карыснасці механізацыі сельскай гаспадаркі. Амаль няма такога гаспадара, які б не купіў да суполкі з суседам ці кумам сеялку або касілку. А, па-другое, вёска Плюцічы мае сваю традыцыю грамадскага дзеяння, актыўнасці. Напрыклад, яшчэ ў 1949 годзе закупілі і пабудавалі сабе, як мы сёння сказалі б, чынам, святліцу, хаця тады аб чынах ніхто і не чуў.

Плюцічам трэба памагчы і **толькі памагчы**, рэшту зробяць яны самыя. Гэта адрасую, перад усім, павятоваму праўленню сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску — **Прыедзьце, пабачце, падыскутуйце** хоць раз на паўгода!

**САКРАТ ЯНОВІЧ**
**фота аўтара**



Кожны перажывае свае справы на свой спосаб. Вось Сцяпан Чачуга стараецца аб цэмент, купляе і возіць яго з недалёкай Страблі. Відаць, задумаў штосьці будаваць.

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# МІНЕРАЛЬНЫЯ КАРМЫ

На гаспадарцы конь зламаў нагу. Карова калісь давала шмат малака, а цяпер пахудзела і мала дае. Дзівіцца гаспадар: што здарылася, кормім жа добра? Нарадзілася цяля, але малое і слабое Чаму?

Чаму? Чаму? Сяляне гатовы звальваць віну на свой лёс і іншае. А справа зусім ясная: жывёла мае дастаткова кармоў, але мала неабходных мінеральных рэчываў: вапны, фосфару і г.д А гэтыя рэчывы неабходны для будовы шкілета. Нямала іх ёсць і ў малацэ.

Калі карова не атрымлівае ў кармах дастатковую колькасць вапны і фосфару, дык «бярэ» іх з уласнага арганізма. Праз нейкі час і такая магчымасць канчаецца. У выніку — менш малака і крухкія косці, асабліва ног. Не прыпадкова, што вясною, калі жывёла корміцца слабей, здараюцца часцей выпадкі зламання ног.

Мінеральныя рэчывы ёсць ва ўсіх кармах. Колькасць іх залежыць ад роду кармоў, тэрміну збору і спосабу прыгатавання. Найбольш вапны маюць матыльковыя. Таму асабліва трэба памятаць і аб іх пры кармленні маладняка і цяжарнай жывёлы. Вельмі мала вапна ў коранеплодах і сіласе У сіласе нават шмат кіслот, уздзеянне якіх на арганізм жывёлы павінна змяншаць якраз вапна.

А цяпер у нашым ваяводстве ў год выкарыстоўваецца толькі... 200 гр. мінеральных кармоў на адну карову. Гэта ў 100 разоў менш, чым трэба. Асабліва ганьбуюць гэтымі кармамі ў Сакольскім павеце. Большасць сялян там лічыць, што наогул мінеральныя кармы непатрэбны.

Іншая справа, калі селянін корміць жывёлу спецыяльнымі мяшанкамі замест збожжа. У кожнай мяшанцы ёсць пэўная колькасць мінеральных рэчываў (1—2%). У такім выпадку няма патрэбы асобна купляць мінеральныя кармы Добры прыклад дае вёска Пасечнікі. Тут сяляне купляюць шмат мяшанак, бо лічаць, што імі лепш карміць жывёлу, чым дробленым зернем або вотруб'ем.

Мінеральныя рэчывы асабліва патрэбны каровам і цяжарнай жывёле Колькасць патрэбных мінеральных рэчываў залежыць ад малочнасці каровы і кармоў, якія яна атрымлівае. Напр., авечкам даем дзённа каля 10 гр. мінеральных кармоў на галаву, адной карове — 60—80 грамаў.

Калі кормім сіласам, дык трэба даваць па 2 гр. кармовай крэйды на кожны кілаграм кармоў. Напрыклад, калі ў дзень даем 25 кг сіласу, трэба даваць 50 гр. крэйды.

Уся гэта справа набірае асаблівай вагі ў асенне - зімовы перыяд. У гэты час пераважна жывёле не хапае мінеральных рэчываў. Чым горш збіраўся ўраджай, тым менш у кармах мінеральных рэчываў. Напр., у гэтым годзе многія сяляне спазніліся з сенакосам, а гэта (як паказалі аналізы) зменшыла колькасць мінеральных рэчываў у сене на 20—30, а часам і 50%. Як бачым, у гэтым годзе асабліва неабходна дадаць мінеральныя кармы.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# ВЕДЫ ЛЮДЗЯМ

Днямі адбыўся ў Беластоку IV З'езд Таварыства Ведзы Паўшэхнай. Дэлегаты з'езда спрачаліся на тэму месца ТВП у жыцці грамадства. Гэтая арганізацыя набліжаецца да 15-ці год свайго існавання і мае за сабой не малыя дасягненні ў папулярызацыі ўсіх галін ведаў. Але вядома, задаволеным ніколі нельга быць. Таму і ТВП хоча лепш, усё лепш служыць грамадству.

У адным з бліжэйшых нумароў шырэй напішам аб ТВП і яе далейшых намерах. (вл)

**БЕЛАРУСІЯНА**

# ДРУК У АПАЛЕ САНАЦЫІ

«Рэгламентацыя свабоды друку ў Польшчы» (1918—1939) Міхала Петшака — гэта каштоўная выдавецкая навінка, якую сёлета атрымаў чытач. Кніга з'явілася ў выданні «Ксёнжкі і ведзы».

Праца М. Петшака прыводзіць багаты матэрыял, адлюстроўваючы становішча друку ў даваеннай Польшчы, яго праследаванне цэнзурай, адносіны ўлад да паасобных газет і часопісаў. Аўтар не мала месца ўдзяляе сітуацыі нацыянальнаменшаснага друку, у тым ліку і беларускага. Гэты факт застаўляе нас бліжэй прыгледзіцца да кнігі М. Петшака. Тут даецца кароткая характарыстыка беларускіх друкаваных органаў розных напрамкаў, падаюцца прычыны, чаму паасобныя з іх падвяргаліся праследванням з боку буржуазнай цэнзуры. У кнізе разлічваюцца два ідэалагічныя кірункі ў беларускім друку. Адзін з іх — буржуазны, як адзначае аўтар, прадстаўляў інтарэсы вузкіх колаў, думаючых аб заснаванні капіталістычнага ладу на беларускіх землях, а другі — рэвалюцыйны — меў на прыкмеце інтарэсы шырокіх працоўных мас, імкнуўся пашырыць ідэі сацыяльнага разняволення беларускага народа і ўз'яднання Заходняй Беларусі ў адной сацыялістычнай беларускай дзяржаве — БССР Аўтар піша, што больш жорсткімі былі адносіны цэнзуры да органаў «Грамады», чымсьці да друку буржуазнага кірунку. М Петшак прыгадвае формы і спосабы праследвання польскіх буржуазных улад, пачынаючы ад канфіскацыі газет аж да арышту іх галоўных рэдактараў.

М. Петшак пралівае свет на малавядомыя факты ў шматпакутным шляху прагрэсіўнай часткі даўняга польскага і нацыянальнаменшаснага друку Зразумела, захаваны тут прапорцыі і найбольш цікавячай нас справе — адносінам да беларускага друку — адводзіцца параўнальна мала месца Аднак нягледзячы на гэта кніга можа і павінна паслужыць дапаможнікам тым усім, каго хвалюе гісторыя беларускага друку. а.с.

# ПКО юбілятам

З выпадку 20-годдзя ПКО правяла лясаванне ўзнагарод і грашовых прэмій сярод моладзі, якая нарадзілася 22 ліпеня 1944 года і дзяцей з 22 ліпеня 1964 года.

Каб прыняць удзел у лясаванні, трэба было прыслаць да 1 IX на адрас рэдакцыі «Музыка і актуальносці» паштовую карту з імем, прозвішчам і адрасам.

15 верасня адбылося лясаванне для дзяцей з 22 ліпеня 1964 года. Вылясавана 100 прэмій па 500 зл. Удзел у лясаванні прыняло 606 дзяцей, 26 з нашага ваяводства. 4 з нашых — вылясавалі прэміі. (вл)

# Слова даражэй грошай?...

У Міхалове даўно робяць старанні, каб пабудаваць аўтобусны паўстанак. Усе нефаховыя работы ўхвалена выканаць грамадскім чынам. Рабочыя цагельні ў суседняй Лясанцы зрабілі грамадскім чынам каля **пяці тысяч штук** цэглы патрэбнай для пабудовы паўстанка.

Пахвальная ініцыятыва міхалаўчан знайшла падтрымку з боку павятовай рады ў Беластоку, якая дала слова, проста абавязалася пастарацца аб тэхнічную дакументацыю міхалоўскаму паўстанку. Аднак жа гэтай дакументацыі няма па сённяшні дзень паміма неаднаразовых дамаганняў і прыпамінанняў з боку месцачковага актыву. (ся)

# Бурачанае жніво

Распачаўся бурачаны сезон. Гаспадары вырываюць буракі, звозяць іх у адно месца, абрэзваюць лісце і тады вязуць на пункты скупу. Працаёмная прадукцыя буракоў. Значна менш забірае яна часу ў ПГР-ах. Большасць прац там выконваецца машынамі. У ПГР Макаўляны да трактара падчэпліваецца спецыяльная машына, якая косіць бурачанае лісце і адразу пагружае яго на прычэпу. Адвозяць буракі самаходам на станцыю ў Саколку.

**Тэкст і фота М.Х.**



Змеханізаванае кашэнне бурачаных лісцяў.



Сотні тон буракоў на пункце скупу ў Саколцы.

# ПАРТАЦКІЯ РАМОНТЫ

Сельскагаспадарчы гурток у Чыжах не ўкладваўся ў свае расходы, заўсёды заканчваў год дзейнасці з дэфіцытам. Мінулы справаздаўча - выбарчы сход паказаў шмат недахопаў кіраўніцтва гэтай арганізацыі і выбраў новае праўленне ў асобах Рыгора Якімюка (старшыня), Аляксандра Трафімюка (бухгалтар) і Васіля Чапюка (дыспетчар). Энергічныя гаспадарлівыя людзі новага праўлення кіруюць сельгасгуртком значна лепш. Да першага паўгоддзя сельгасгурток не толькі пакрыў 11 тысяч дэфіцыту мінулага года, але і дабіўся ўжо чыстага даходу. Вядома, даход гэты невялікі, акрэсліваецца сумай 439 злотых, але сведчыць ён аб пераломе ў дзейнасці, аб добрым кіраўніцтве. У бягучым годзе прадукцыйная моц трактараў выкарыстана значна лепш. На 30 чэрвеня на тры трактары вышла па 830 гадзін працы пры гадавой норме 1000 гадзін. Таксама справа выглядае і з выкарыстаннем іншых машын.

— Прадукцыйныя магчымасці машын у нашай вёсцы мы маглі б выкарыстаць да максімума і мелі бы яшчэ лепшыя вынікі, каб нараўскі ПОМ не па-партацку рабіў нам рамонты, — сцвярджаюць члены праўлення.

І пачалі яны сыпаць фактамі, якія сведчаць, што ПОМ не стаіць на ўзроўні сваіх абавязкаў. Больш таго, ПОМ не толькі абдзірае за рамонты, але яшчэ і ашуквае.

Прыводзім факты.

У час жніва, калі кожная гадзіна на вагу золата цэніцца, сапсавалася жняярка. ПОМ з рамонтам не спяшаўся. Тады трактарысты гуртка, атрымаўшы з ПОМ-у патрэбныя дэталі машын, самі хутка наладзілі машыну. Сельгасгурток заплаціў сваім трактарыстам за рамонт. За гэты ж рамонт прыслаў рахункі і ПОМ. Абураліся гуртκоўцы за такое нахальства ПОМ-у, але заплаціць былі вымушаны таму, што ПОМ інакш не даў бы паліва для трактараў і рухавікоў. Плаціць за невыкананую працу вельмі крыўдна.

Калі ў трактары ў час уборкі збожжа лопнуў цыліндр, завезлі яго ў ПОМ. За рамонт заплацілі 5 тысяч злотых. Пасля двух тыдняў працы зноў лопнуў цыліндр. Завезлі зноў у ПОМ. І зноў ПОМ наладзіў. Не прайшло і тыдня, як і трэці раз сталася гэта ж самая аварыя. Вось, на табе і ўслугі ПОМ-у. Ды кажуць яшчэ, што працуюць там такія спецыялісты.

Прышлося яшчэ раз прывезці трактар у ПОМ. Завезлі яго, страцілі шмат часу, а там няма каму яго прыняць у рамонт. На экскурсію ўсе выехалі. Не хапала толькі, каб і стоража забралі з сабою. Аднак стоража пакінулі на месцы і загадалі яму нікога, нават каб прыехаў ён з-за 50 кіламетраў, не ўпускаць з машынамі на ПОМ-аўскі пляц. Няхай, маўляў, назад вязуць. Чыжоўцы назад не павезлі. Пакінулі трактара непадалёк ПОМ-аўскай брамы.

І яшчэ адзін прыклад. У апоне трактара паявілася дзірка. Завулканізаваў яе ПОМ. Пасля некалькіх дзён працы ў гэтым жа месцы паявілася чатыры дзіркі. А грошы бяруць у ПОМ-е, як за салідны рамонт.

— Няхай бралі б за рамонт яшчэ больш, — гаворыць старшыня гуртка Рыгор Якімюк, — але няхай гэта будзе сапраўдны рамонт, няхай адзін сезон ён вытрымае.

І яшчэ адна справа. Рамонт надта доўга працягваецца. Чыжоўцы ў час малацьбы аддалі ў рамонт рухавік. Быў ён там два тыдні. За два тыдні можна было б многа гадзін выпрацаваць малацільным агрэгатам, што значна пабольшыла б даходы сельгасгуртка.

Прывялі мы тут прыклады ПОМ-аўскіх рамонтаў у бягучым годзе. У мінулым годзе было яшчэ «цікавей». У ПОМ-е ў Нарве з новага чыжоўскага рухавіка пааднімалі дэталі машыны і паўстаўлялі старыя, ледзь жывыя. Інакш кажучы, абакралі рухавік. Гэтая справа доўга цягнулася. Мела з ёю дачыненне розныя ўстановы і праўдападобна будзе яна ўжо ўладжана.

Як бачым чыжоўскі сельгасгурток мае шмат непрыемных спраў з ПОМ-ам. Але не толькі з ПОМ-ам. Ёсць цяжкасці і са сваімі членамі гуртка. Як вядома, сельскагаспадарчы гурток у Чыжах у значнай ступені арганізаваўся на машыннай базе былой спулдзельні прадукцыйнай. Ліквідацыйная камісія дазволіла гуртку карыстацца некаторымі сельскагаспадарчымі машынамі. Былы старшыня сельгасгуртка Пётр Ціханюк па-маленьку гэтыя калектыўныя машыны сілаю забірае для сябе. Забраў ён спулдзельчы сеўнік, забраў грабярку, дошкі і іншыя рэчы. Гурткоўскі культыватар у бягучым годзе працаваў і на яго полі. За гэтую працу павінен ён заплаціць для гуртка 360 зл. Аднак Пётр Ціханюк і не збіраецца разлічыцца. Ён пагардліва адказвае так: — «Мне калхоз вінаваты значна больш, і я маўчу».

Нам здаецца, што гурток павінен поўнасцю абмежаваць самаволю Пятра Ціханюка пры дапамозе адміністрацыйных органаў нашай улады.

Усё сказанае вышэй сведчыць аб не малых цяжкасцях сельгасгуртка і аб добрым кіраўніцтве новага праўлення.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# ЗА ГАРАМІ, ЛЯСАМІ...



**Вось, якая яна, гэтая ясная школа... Я быў тут пад канец месяца верасня, калі адбываліся ўжо астатнія работы над яе заканчэннем.**

Вёска Гародчына — заціхлая мясціна пасярод рэдкалесся. Аколіца, здаецца, людзьмі і светам забытая. Нават самую назву вёскі хтосьці перайначыў, перакруціў на «Гарочына», хаця ва ўсіх афіцыяльных дакументах называецца яна «Гародчына» і людзі таксама так завуць сваё паселішча.

Валачыліся дзеці па сцежках - дарожках у далёкія школы. Першакласнікі акалічных вёсачак хадзілі ў Ляхі, а ляхаўскія старшакласнікі — аж у Кленікі. Малыя гародчынцы вандравалі да янаўскай школы, а з Козлікаў — да школы ў Кожына (Бельскі павет)...

Вось, так крыжаваліся малюткія сляды ў верставой пясчанай бездарожыцы. Але яшчэ крыху цярплівасці і дзіцячая вандроўка канчаецца, заціхае. Гародчына не такое ўжо закінутае, каб аб ім ніхто не падумаў.

Будзе год, як на ўскраіне вёскі, пад лесам, будавалася прыгожая беласценная школа. Вырасла яна бы палац у вёсцы, дзе яшчэ цяпер лічаць запалкі, бо за імі трэба далёка ехаць... А ў гэтай школе ясныя, шкляныя класы з навюткімі — астатняй моды — партамі. Тут свой вадаправод, цёплая вада ў кранах, святлістыя калідоры і залы, санітарныя выгоды, раздольны пляц, гарадскія кватэры настаўнікам.

Уладзіслаў **Матыцкі**, кіраўнік будовы школы, расчараваны толькі гародчынскімі людзьмі.

— Пахваліць іх не магу, — гаворыць ён. — Цяжка нагаварыць гародчынцаў, каб дапамаглі ў чым-небудзь...

А ўжо цалкам здзівіў мяне факт, што мясцовыя юнакі не пакваліліся нават на заробкі пры гэтай будове. Давялося прывозіць рабочых аж з Бельска, з бельскай будаўнічай фірмы.

Кіраўнік Матыцкі падрабязна падлічыў мне кошт будовы на суму 1.261.156 злотых (апрача электрычнай і санітарнай інсталяцый, якія дадаткова каштавалі яшчэ каля двухсот тысяч зл). Падумаць, што значная частка той сумы грошай магла б застацца ў кішэнях гародчынскіх людзей, каб яны захацелі папрацаваць, як гаворыцца, акордам, без аглядкі.

Апошнім часам, аднак, вёска як бы заварушылася. Вось, вялікія Кленікі, так сказаць, падарылі Гародчыну драўляны будынак сваёй крамы, бясплатна — хаця некаторыя кленіцкія гаспадары і крывіліся на гэтаку «раскіданасць»... Кленікам драўляная крама ўжо непатрэбна, маюць мураваную. Гародчынцы, гэтым разам жыва ўзяліся стаўляць сабе краму — перавезлі будынак да сябе, пабудавалі фундамент.

**— Усё зрабілі чынам!**

Зласліўцы кажуць, што дарэмнаму каню ў зубы не заглядаюць, але зласліўцы засталіся ў меншасці.

— Крама ў Гародчыне будзе!

Вёска пачынае дбаць аб свае інтарэсы.

С. Я.

фота аўтара



**Чын — гэту бескарысную (бясплатную) працу для дабра цэлай вёскі прызналі і тут. Будзе свая крама! Глядзіце і радуйцеся!..**

# ГУСАРЫ

Нядаўна ў Беластоку і некаторых павятовых гарадах (між іншым у Гайнаўцы) выступаў Тэатр Мазавецкай Зямлі з п'есай Брайля «Гусары». Тэатр і п'еса падабаліся. Вось сцэна з «Гусараў» — два «страшныя» напалеонаўскія салдаты, якія заблукаліся ў італьянскую вёску і вельмі баяцца. Іх баяцца таксама.

Смеху ў п'есе нямала, тым больш, што рэжысёр пайшоў у напрамку якраз выдабыцця з п'есы як найбольш смеху. (вл)

# Падвойная ўрачыстасць

У Вышэйшай інжынерскай школе ў Беластоку адбыўся афіцыяльны і надта ўрачысты пачатак новага навучальнага года. Усё было ў тэатры імя А. Вянгеркі ў прысутнасці міністра Штахельскага і віцэ-міністраў Красоўскай і Мінца. Наша беластоцкае асяроддзе прадстаўлялася таксама надта багата. Вялікая зала тэатра была запоўнена, атмасфера ўзнёслая. Ці ж можна здзіўляцца? Два моманты спляліся тут. Першы — пераіменаванне школы з Вечаровай у Вышэйшую інжынерскую школу з дзённым навучаннем (акрамя вечаровага), другі — 15-годдзе школы.

Беласток мае цяпер дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы. што дае яму поўнае права на назву студэнцкага горада.

Рэктар ВСІнж. прафесар Панятоўскі рашэннем Савета Дзяржавы адзначаны крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы. Момант прыемны — прафесар Панятоўскі заслужаны для Беластока і Вышэйшай школы інжынерскай, якая выпусціла ўжо 376 абсальвентаў - інжынераў. На яе трох аддзяленнях — будаўляным, механічным і электрычным вучыцца цяпер 823 студэнты. Разам з развіццём дзённага навучання будзе расці і лік студэнтаў, перад усім з Беласточчыны, якія і на Беласточчыне застануцца пасля заканчэння вучобы.

Інжынераў нам трэба многа. Гаварылася аб гэтым у выступленнях на ўрачыстасці. Лік інжынераў у нас на 1000 рабочых значна меншы чым сярэдняя ў краіне. Значыць, Вышэйшая інжынерская школа паўстае перад намі як уласная кузня тэхнічных кадраў і як цэнтр тэхнічнай думкі на ваяводства. Верым. што такое заданне споўніць і гэтага ёй жадаем з выпадку 15-годдзя. (вл)

